# Беларус

ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.50

B I E L A R U S

Byelorussian Newspaper in the free World
Published by the Byelorussian-American Association
P.O. Box 178
Jamaica, New York 11432
U.S.A.

№ 364 Год выд. XXXVIII | Лістапад 1989


## ПАД КРЫЖАМ ПАКУТЫ

Дзяды-1989



*Шасьцімэтровы крыж, пастаўлены ў Курапацкім лесе на ўшанаваньне памяці ахвяраў сталінізму. На папярэчцы крыжа гады злачынстваў: 1937-1941. Фота газэты «Літаратура і мастацтва» (3.XI.89).*

У Менску 29-га кастрычніка бацькі й дзеці, старыя, моладзь, з кветкамі, з бел-чырвона-белымі сьцяжкамі, перавязанымі жалобнымі стужачкамі, сабраліся а 12-ай гадзіне каля брамы Ўсходніх магілак, каб адзначыць сьвяты для кожнага Беларуса дзень Дзядоў. Адтуль вялікая калёна — каля 50 тысячаў чалавек — накіравалася ў Курапаты, дзе ад 1937 году да чэрвеня 1941-га было забіта чвэрць мільёну чалавек. Нашчадкі прыйшлі сюды, каб паставіць Крыж Пакуты за нявінна забітых продкаў. Крыж Пакуты асьвяцілі праваслаўны, каталіцкі й пратэстанцкі сьвятары. Малітвы на пасьвячэньне Крыжа сказалі ксёндз Ян Матусэвіч і праваслаўны сьвятар а. Аляксей. Пасьля адбыўся жалобны мітынг, на якім прамовілі старшыня «Мартыралёгу Беларусі», ён-жа старшыня Сойму Беларускага Народнага Фронту Зянон Пазьняк, намесьнік старшыні «Мартыралёгу», пісьменьнік Уладзік Арлоў, народны пісьменьнік Янка Брыль, а таксама сьведкі тых жудасных расстрэлаў — жыхаркі вёскі Цна Вольга Бароўская і Марыя Пасяшук, — Мая Кляшторная, дачка забітага ў 1937 годзе паэта Тодара Кляшторнага, ды іншыя жыхары Менску, якіх непасрэдна ці ўскосна закранула гэтая трагедыя.

Сёлета Дзяды адзначаліся ня толькі ў Менску, але і ў многіх гарадох Беларусі: у Віцебску, Баранавічах, Гародні, Магілеве, Бярэсьці. Як летась у Менску, не абыйшлося без бязглуздых забаронаў. Гэтак, берасьцейская рада Беларускага Народнага Фронту мусіла праводзіць Дзяды бяз санкцыі гарадзкіх уладаў. Міліцыя спрабавала арыштаваць арганізатараў сьвята, але людзі не дазволілі гэта зрабіць. Адбыўся мітынг-рэквіем, на якім былі згаданыя імёны тых, хто загінуў за волю Бацькаўшчыны пад Грунвальдам, пад Воршай, пад сьцягамі Касьцюшкі і Каліноўскага, у сталінскіх ды фашыстаўскіх засьценках. Увечары на старых Дрышанскіх могілках былі запаленыя сьвечкі памяці.

У Магілеве таксама Дзяды былі забароненыя, але пасьля набажэнства ў саборы на Быхаўскім рынку, незважаючы на тое, што найбліжэйшая дарога туды была перакрытая міліцыянтамі, жалобны мітынг усеяроўна адбыўся ў тым раёне, дзе нядаўна былі выяўленыя месцы расстрэлаў бязьвінных ахвяр сталінізму. Мітынг вёў народны дэпутат СССР, сябра Сойму БНФ Сяргей Гаўрусёў.

*(Паводле паведамленьняў менскіх карэспандэнтаў Беларускае сэкцыі радыё «Свабода»).*

## ДЭМАНСТРАЦЫЯ «ЧАРНОБЫЛЬСКІ ШЛЯХ»

**«Для нашай нацыі няма сёньня бяды большай, чым гэтая пагроза фізычнай сьмерці».**

У Менску 30-га верасьня сёлета адбыўся мітынг «Чарнобыльскі шлях», арганізаваны Беларускім Народным Фронтам «Адраджэньне». Тысячы жыхароў Беларусі прайшлі шэсьцем па Ленінскім праспэкце, галоўным у сталіцы. Ні моцны дождж, ні мэгафонныя выкрыкі міліцыі, якія ўгаворвалі людзей ня ўдзельнічаць у несанкцыянаваным мерапрыемстве і пагражалі арганізатарам штрафамі, ня змусілі людзей выйсьці з агульнай калёны, якая накіроўвалася да плошчы Леніна. Там, пад самымі вокнамі Дому ўраду, адбыўся амаль 50-тысячны мітынг, на якім ізноў прагучэла чарнобыльская тэма.

Першым выступіў старшыня Сойму БНФ Зянон Пазьняк. Арганізатары мітынгу запрасілі таксама кіраўнікоў рэспублікі: старшыню Савету Міністраў БССР Кавалёва, старшыню Прэзыдыюму ВС БССР Дземеньцея і першага сакратара ЦК КПБ Сакалова. Аднак ніхто зь іх не зьявіўся.

На мітынгу выступілі з прамовамі прадстаўнікі 17 заражаных радыяцыяй раёнаў Беларусі Гомельскай, Магілеўскай, Берасьцейскай і Менскай вобласьцяў. Яны расказалі аб цяжкім эканамічным палажэньні, аб радыяцыйным генацыдзе з боку ўладаў, выкрывалі дэзынфармацыю і замоўчваньне фактаў на працягу трохгадовага пэрыяду. Шчырым болем былі прасякнутыя словы прамоўцаў. Быў узьняты цэлы рад пытаньняў, адказаў на якія людзі ўсё чакаюць.

Беларускія вучоныя выклалі на мітынгу сваю канцэпцыю выпраўленьня становішча: адтуль, дзе нельга вырошчваць чыстую ад радыяцыі прадукцыю, людзі павінны быць выселеныя ў «чыстыя» раёны Беларусі. Кожнаму, хто хацеў-бы перасяліцца, урад павінен даць адпаведныя сродкі.

Чаканым на мітынгу было выступленьне народнага дэпутата СССР пісьменьніка Алеся Адамовіча. Прамоўца сказаў, што Чарнобыль зьвязаны не толькі зь вялікай хлусьнёй, але й з беспасярэднімі службовымі злачынствамі. І мы прыйдзем усё-ткі да экалягічнага «Нюрэнбэргу», сказаў прамоўца, да гэтага няўхільна справа ідзе. Таму што, калі ня спыніць гэтую безадказнасьць, гэтую кругавую паруку хлусьні на ўсіх узроўнях, нават самых высокіх, дык мы ня выратуемся... Калі мы хочам, каб тыя сродкі, што мы зьбіраем у Чарнобыльскі фонд, былі выдаткаваныя з карысьцяй, сказаў Адамовіч, мы павінны замяніць усіх людзей, што так ці інакш хлусілі нам гэтыя тры гады. І зрабіць гэта можна...

На мітынгу выступіў таксама сябра Сойму БНФ Міхась Скобаль і заклікаў усіх ствараць на прадпрыемствах забастовачныя камітэты. Толькі яны, на ягоную думку, дапамогуць працоўным у іхным змаганьні за дэмакратыю.

Вынікам амаль трохгадзінага мітынгу стала ніжэй зьмешчаная ўхвала:

Змарнаваны час, калі рашучыя захады маглі-б выратаваць людзей ад чарнобыльскай радыяцыі. Гэта пэрыяд росту захворваньняў. На Беларусі зафіксаваныя першыя выпадкі калечаных радыяцыяй дзяцей. Для нашай нацыі няма сёньня бяды большай, чым гэтая пагроза фізычнай сьмерці. Бязьдзейнасьць уладаў, дэзынфармацыя, замоўчваньне сапраўднай небясьпекі, спарадзілі няўпэўненасьць у будучыні, страх за жыцьцё і лёс сваіх дзяцей. У рэспубліцы, асабліва ў заражаных зонах, склалася нэрвовае, напружанае становішча. Людзі Беларусі адчуваюць сябе аб'ектам злачынных, мэдыка-радыяцыйных досьледаў. Чацьверты год працягваецца вытворчасьць заражанай радыяцыяй сельскагаспадарчай прадукцыі, якая цалкам спажываецца ў рэспубліцы. У Саюз-жа паранейшаму пастаўляецца толькі «чыстая» прадукцыя. Радыяцыі не баяцца толькі тыя, хто харчуецца спэцпрадуктамі са спэцгаспадарак. Удзельнікі мітынгу патрабуюць:

1. У аснову дзяржаўнага пляну па выратаваньні ахвяраў чарнобыльскай катастрофы павінна быць пакладзеная не маскоўская канцэпцыя 35 бэраў за жыцьцё, якая, па сутнасьці, ператварае пятую частку Беларусі ў радыя-лепразорый, а канцэпцыя беларускіх вучоных: там, дзе нельга атрымаць «чыстую» прадукцыю харчаваньня, людзям нельга жыць.

2. Адсяленьне насельніцтва — калектыўнае і індывідуальнае — з радыяцыйна заражаных зонаў павінна адбывацца ў межах Беларусі, пачынаючы зь 1-га студзеня 1990 году з выплатай абавязковай кампэнсацыі ў грашовым і матэр'яльным выражэньні за страту здароўя, гаспадаркі, і на сацыяльную адаптацыю. Неабходна прызнаць непарушным права кожнага чалавека самому вырашаць — застацца яму ў заражанай зоне, ці выяжджаць зь яе.

3. Распачаць крымінальную справу па фактах службовага злачынства, стварэньня штучнай сакрэтнасьці і сьведамага непрыняцьця патрэбных мераў для абароны і выратаваньня людзей — супраць былога першага сакратара ЦК КПБ Мікалая Сьлюнькова, былога старшыні Савету Міністраў БССР Георгія Таразевіча, старшыні Савету Міністраў БССР Міхаіла Кавалёва, начальніка штабу грамадзянскай абароны БССР Аверкія Грышаніна, былога старшыні Дзяржаграпраму БССР, намесьніка старшыні Савету Міністраў БССР Юрыя Хусаінава, былога галоўнага санітарнага лекара БССР, цяпер кіраўніка справаў Саўніму БССР Віктара Бур'яна, галоўнага санітарнага лекара БССР Аляксандра Кандрусева».

С. Б.

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
Subscription $20 yearly
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Падпіска зь перасылкаю 20 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# Я. САКАЛОЎ: «БЫЦЬ ЦІ НЯ БЫЦЬ САВЕЦКАЙ УЛАДЗЕ»

Галоўная прыкмета мысьленьня застойнае брэжнеўскае пары — гэта валюнтарысцкае непрызнаваньне рэчаіснасьці (часамі проста няздольнасьці яе распазнаваць). Першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі Яфрэм Сакалоў з гледзішча на палітычны стан у рэспубліцы — тыповы брэжневец, хоць і прызначаны на цяперашнюю пасаду ўжо Гарбачовым. Палітычна застойнае мысьленьне Сакалоў дэманструе кожны раз, калі аналізуе й ацэньвае сучаснае палажэньне на Беларусі. Свой закаранелы дагматызм у гэтай галіне ён зырка прадэманстраваў яшчэ раз на пленуме ЦК КПБ 18 кастрычніка сёлета. Гэта быў апошні пленум рэспубліканскае партарганізацыі перад тым, як БССР, пачынаючы ад 1-га студзеня 1990 году, пяройдзе на гэтак званы рэспубліканскі гасразьлік (гаспадарчы разьлік), гэта значыць, будзе мець пэўную аўтаномію ў эканамічных і фінансавых справах. На згаданым пленуме Сакалоў сказаў, што «істотнае павышэньне самастойнасьці (БССР), улік нацыянальнага фактару, улік спалучэньня нацыянальных і інтэрнацыянальных каштоўнасьцяў прымушаюць выпрацаваць Праграму Кампартыі Беларусі». Дагэтуль КПБ свае асобнае праграмы ня мела, а кіравалася агульнасаюзнай праграмай КПСС.

Асобная праграма спатрэбілася партыйнаму кіраўніцтву ў Менску ня толькі дзеля гасразьліку. Важным штуршкому тут сталася праграма Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне», прынятая сёлета ў чэрвені на ўстаноўчым зьезьдзе Фронту.

На Беларусі цяпер рыхтуюцца да выбараў. «Мы на парозе палітычнае рэформы — выбараў Вярхоўнага Савету БССР і мясцовых Саветаў, — сказаў Сакалоў на пленуме. Ён заклікаў партыйцаў змабілізаваць усе сілы, каб не прайграць «БО ПЫТАНЬНЕ АБ ВЫБАРАХ, — сказаў Сакалоў, — ГЭТА ПЫТАНЬНЕ АБ ТЫМ, БЫЦЬ ЦІ НЯ БЫЦЬ САВЕЦКАЙ УЛАДЗЕ Ў ЛЕНІНСКІМ РАЗУМЕНЬНІ, БЫЦЬ ЦІ НЯ БЫЦЬ САЦЫЯЛІСТЫЧНАМУ ЛАДУ, БЫЦЬ ЦІ НЯ БЫЦЬ КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ». Сакалоў б'е на трывогу, бо ведае, што адбылося ў Польшчы й Вэнгрыі, чуе пра статысячныя дэманстрацыі ў Ляйпцыгу й Празе, дзе людзі дамагаюцца скончыць з камуністычным манаполем на ўладу. Але дагматызм у Сакалова бярэ верх над здаровым палітычным глуздам: правадыр партбюракратыі яшчэ ўсё спадзяецца, кажучы словамі ягонага дакладу, «забясьпечыць палітычнымі сродкамі ініцыятыўна-авангардную ролю партыі ўва ўсіх сфэрах жыцьця». Інакш кажучы, ніякіх прынцыповых зьменаў у дачыненьнях паміж грамадзтвам і партыйнай уладай Яфрэм Сакалоў не прадбачыць. Наадварот. «Новыя ўмовы эканамічнай дзейнасьці, — кажа ён, — вымагаюць ад нас (камуністаў — Я.З.) і новых падыходаў **да ўзмацненьня партыйных уплываў на гэтыя працэсы».** Але Сакалоў тут-жа прадэманстраваў сваю няздольнасьць да «новага падыходу» ў рэагаваньні на новыя палітычныя зьявы ў рэспубліцы. У тым, што палажэньне на Беларусі сёньня новае ў выніку дзейнасьці Беларускага Народнага Фронту, няма ніякага сумніву. Сакалоў сам пра гэта сьвечыць, заяўляючы, што пытаньне сёньня стаіць «БЫЦЬ ЦІ НЯ БЫЦЬ САВЕЦКАЙ УЛАДЗЕ». Хто-ж гэта ёй так пагражае, калі не Беларускі Народны Фронт? Ды Сакалоў вельмі добра ведае пра гэта, але прывыкшы пушчаць дым у вочы, ён разьлічвае на інфармацыйны манаполь, на непаінфармаванасьць выбаршчыкаў «глыбінкі», на інэрцыю іхнае застрашанасьці. Так як некалі сталінцы наганялі страх на людзей словамі «ворагі народу», «агенты імпэрыялізму», «трацкісты», гэтак Сакалоў на пленуме застрашваў сваіх слухачоў «пэўнымі сіламі», «экстрэмістамі» ды іхным «ашалелым імкненьнем за плячыма народу ўмацавацца ў собскай уладзе». Гэта пра Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне».

Стары камуніст Максім Танк на пісьменьніцкім пленуме ў травені летась трапна сказаў пра савецкую гістарычную «навуку», што «цяжка знайсьці ў летапісах усяго чалавецтва нешта падобнае да такога масавага ачмурэньня». Яфрэм Сакалоў, адмаўляючыся называць у палітычнай спрэчцы БНФ, разьлічвае ўсё яшчэ на «масавае ачмурэньне». Мала таго, ён яшчэ й публічнасьць хоча зацiснуць. «Мы рашуча выступаем, — заявіў ён на тым-жа партыйным пленуме, — супраць імкненьня асобных газэтаў і часапісаў адыйсьці ад партыйных прынцыпаў, выкрыўляць праўду ўва ўгоду вузкому колу асобаў» («Сельская газета», 19.Х.89). Рэч у тым, што некаторыя органы друку БССР называюць рэчы сваімі імёнамі, падаюць факты, пішуць пра БНФ.

Сакалоў-жа хоча, каб усе газэты й часапісы рабілі так, як зрабіла нядаўна БЕЛТА з паведамленьнем пра сёлетні шматтысячны жалобны мітынг у Курапатах, арганізаваны «Мартыралёгам Беларусі» й Беларускім Народным Фронтам. У белтаўскім «паведамленьні», як і ў сакалоўскім дакладзе на пленуме, ні славечка пра арганізатараў, ні адзінага прозьвішча прамоўцаў. Бач, няхай чытач «Сельской газеты» падумае, што гэта ўсё партыя робіць.

Ашуканства, часамі таннае й подлае, на кожным кроку. Дык ці можа партыя, карыстаючыся гэткімі мэтадамі, прэтэндаваць на «ініцыятыўна-авангардную ролю» ў грамадзтве? Калі беларускае грамадзтва будзе добра паінфармаванае, яно дасьць нядвузначны адказ на гэтае пытаньне ў наступных выбарах.

**Янка Запруднік**

# НА ШЛЯХУ ДА СВАБОДЫ

**Прамова Зянона Пазьняка на 2-ім зьезьдзе Латыскага Народнага Фронту**

Паважаныя сябры, глыбакапаважаныя спадарыні й спадары!

Я рады прывітаць высакадастойны зьезд ад імя Беларускага Народнага Фронту. У нас шмат агульных праблемаў, дзеля гэтага я дазволю сабе выказаць некаторыя меркаваньні. Галоўныя пытаньні, што аб'ектыўна стаяць цяпер перад рэспублікамі, гэта пытаньні нацыянальнага адраджэньня, нацыянальнае незалежнасьці. Яшчэ паўтара году таму сытуацыя была іншай. Нацыянальнае адраджэньне ўспрыймалася як складовая частка дэмакратызацыі грамадзтва, сувэрэнітэт выглядаў зусім дасягальным — шляхам перабудовы СССР, падпісаньнем новае саюзнае ўмовы на аснове канфэдэрацыйнай сувязі паміж свабоднымі рэспублікамі. Але мінуў час, і стала ясна, што карэннае зьмены функцыяў партыйнае звышдзяржавы не прадбачыцца. За перабудовачным спрэчакслоўем прыймаюцца антыдэмакратычныя законы, скіраваныя на замацаваньне цэнтралізаванае ўлады, а доля рэспублікаў ніколі ня цікавіць, апрача іх самых. Палажэньне, якое склалася — гэта вынік палітычнае непасьлядоўнасьці, двурушнасьці й эклектычнасьці дактрыны перабудовы, задуманае ў лібэральным асяродзьдзі вышэйшага партыйнага кіраўніцтва, як экстранная мера для ўратаваньня карабля, што йдзе на дно — савецкае партыйнае імпэрыі.

Галоўная тэза, якая аб'ядноўвае цяпер партыйных лібэралаў, партыйных радыкалаў і кансэрватараў ды нават ладную частку расейскае дэмакратыі, што актыўна выступае за перабудову, — гэта тэза ўмацаваньня, як яны кажуць, «нашага супольнага дому», г. зн. адзінае партыйнае дзяржавы СССР. Нашай супольнай турмы народаў, якая стаецца для нас нашай супольнай дамавінай. Праўдападобна, выходзячы з гэтае тэзы аб «супольным доме», ЦК КПСС запрапанаваў замацаваць расейскую мову дзяржаўнай мовай у СССР. Гэтага рэакцыйнага палажэньня не адважыўся ўслух вымавіць нават Сталін, але наважыўся вымавіць яго Гарбачоў. Запраўды, як сказаў хтосьці з народных дэпутатаў, цяжка быць адначасна лідэрам перабудовы й лідэрам намэнклятуры. Прагрэсыўная, аднак, не канфармісцкая вялікадзяржаўная тэза захаваньня «супольнага дому» і цэнтралізаванае дзяржавы шляхам нашываньня дэмакратычных латак, прагрэсыўны працэс здабываньня свабоды чалавекам і выплываючае адсюль самавызначэньне народаў. Прагрэсыўны працэс распаду імпэрыі і ўтварэньня свабодных дзяржаваў, а не рэанімацыя і рамонт звышдзяржавы. На чацьвертым годзе перабудовы стала ясна, што Масква не зацікаўленая ў рэальным згуртаваньні народаў, якія знаходзяцца ў крытычным стане. У гэткай сытуацыі, каб не загінуць разам з караблём, што топіцца, адзінай надзеяй на паратунак стаецца выхад із складу СССР. Само жыцьцё ставіць гэтае пытаньне. Аднак палажэньне трагічнае. Прынцып пазаэканамічнай сыстэмы арганізацыі савецкае эканомікі трымае ўсіх у гэткай эканамічнай залежнасьці, калі імгненны разрыў яе няўхільна прывядзе да катаклізму, на які можа адважыцца толькі вельмі мужны й вельмі салідарны народ. Пры гэтым трэба цьвяроза ўсьведамiць сабе, што Захад наўдачу ці дапаможа. Канечна патрэбен належным чынам юрыдычна й эканамічна рэглямэнтаваны пераходны пэрыяд падрыхтаваньня незалежнасьці. На шляху да свабоды неабходная дэмакратычная салідарнасьць паміж рэспублікамі, трэба адчуць, што без дэмакратычнае Беларусі праблематычнае існаваньне свабоднае Латвіі. Без дэмакратызацыі Украіны нестабільны палітычны працэс на захадзе СССР. Свабоду цяжка здабыць у адзіночку, нават утрох, але яна рэальна магчымая ў працэсе разьвіцьця дэмакратызацыі, стварэньня агульнага міжрэспубліканскага рынку й салідарнасьці ўсіх заходніх рэспублікаў Савецкага Саюзу. Дзякую.

**Зянон Пазьняк, Беларускі Народны Фронт**

### *КАНЕЦ ІМПЭРЫІ?*

На савецкім тэлебачаньні ў нядзелю 15 кастрычніка акадэмік Юры Рыжоў, народны дэпутат і старшыня камісіі ВС СССР да справаў навукі й культуры, адказваючы на пытаньне, ці трэба надаваць расейскай мове статус дзяржаўнай мовы СССР, сказаў, што «час імпэрыяў мінуўся, мы ня можам уваходзіць у дваццаць першае стагодзьдзе як імпэрыя», а дзеля гэтага, на думку Рыжова, няма патрэбы абвяшчаць расейскую мову дзяржаўнай мовай СССР.

### ДАКУМЭНТЫ БНФ «АДРАДЖЭНЬНЕ»

У Менску выйшла нядаўна друкаваная брашура (38 бб.) «Праграмныя дакумэнты БНФ 'Адраджэньне'». У публікацыі зьмешчаныя: Зварот Устаноўчага Зьезду БНФ да грамадзянаў Беларусі; Праграма БНФ; Статут БНФ; Ухвалы (рэзалюцыі) Устаноўчага зьезду.

### НУТРАНАЯ ПУБЛІКАЦЫЯ СУПРАЦЬ БНФ

У другой палавіне сёлетняга году ў Менску выйшла кніжка на 96 старонак друку пад заг. «Справочный материал (в помощь лектору, политинформатору)». Гэта нутраная інструкцыя партыйным прапагандыстам, як аргумэнтаваць супраць Праграмы Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне». Інструкцыя распрацаваная брыгадай спэцыялістаў з АН БССР ды з рэспубліканскіх міністэрстваў адукацыі, юстыцыі, культуры, замежных справаў, пракуратуры, Дзяржкампрыроды, Дзяржкамвыду. У кнізе пункт на пункце бярэцца цьверджаньне або палажэньне Праграмы БНФ і даецца на яго адказ.

Выданьне гэтае кнігі — гэта свайго роду прызнаньне эфэктыўнасьці Беларускага Народнага Фронту, як палітычнае сілы. У сябе ўнутры партыйнае кіраўніцтва вучыць лектараў і палітінфарматараў, як аргумэнтаваць супраць БНФ, а навонкі, у публічных выступленьнях і ў афіцыйным друку робіць усё магчымае, каб як найменш гаварыць пра БНФ. Гэткім замоўчваньнем БНФ партбюракраты хочуць выпраўдаць сваю адмову зарэгістраваць гэтую масавую грамадзкую арганізацыю, прызнаць ёй афіцыйны статус.

### *КАЛІ НЯ ВЫ, ДЫК ХТО?*

***«Беларус» выходзіць толькі дзякуючы падпішчыкам і ахвярадаўцам. Калі да ліку іх не належыце Вы, дык на каго-ж тады спадзявацца тым, хто зацікаўлены ў чытаньні «Белаурса» на Бацькаўшчыне, але пазбаўлены магчымасьці плаціць за газэту?..***

# ПРАТЭСТЫ СУПРАЦЬ РЭАКЦЫЙНАГА ЗАКАНАПРАЕКТУ АБ ВЫБАРАХ

***Ад Рэдакцыі:*** *Па цэлай Беларусі, у самвыдавецкіх публікацыях, у частцы афіцыйнага друку ды на самых розных, санкцыянаваных і несанкцыянаваных сходах і мітынгах людзі пратэставалі супраць ўрадавага заканапраекту аб выбарах. Кульмінацыйнага пункту гэтая хваля пратэстаў дасягнула ў Менску колькі дзён перад галасаваньнем над заканапраектам у Вярхоўным Савеце рэспублікі. Што рабілася ў сталіцы Беларусі напярэдадні галасаваньня, цікава апісаў у лісьце да нас сьветка менскіх падзеяў. Выпіску зь ліста (затрымваючы прозьвішча аўтара) падаём ніжэй.*

Гэты тыдзень у Менску быў даволі насычаны палітычнымі падзеямі. 25-га кастрычніка пачалося паседжаньне Сэсіі Вярхоўнага Савету БССР па праблемах Чарнобыльскай аварыі і прыняцьця закону аб выбарах у Вярхоўным Савеце БССР. На гадзіну 18:30 БНФ назначыў мітынг-сустрэчу з дэпутатамі, але да Дому ўраду не дапусьціла міліцыя. Угаварылі перайсьці мітынгуючых да Дому палітасьветы. Прыйшлі дэпутаты Шушкевіч і другія, але ў першы дзень ня было абмеркаваньняў пытаньня аб выбарах. На другі дзень (26-га) ля Галоўпаштамту сабралася тысячаў 25, але міліцыі і спэцатрадаў было каля 6 тысячаў, якія перагарадзілі ўсе подступы да плошчы Леніна. У назначаны час (18:30) моладзь выйшла на праспэкт Леніна, за ёй рушылі ўсе дэманстранты. Была зробленая спроба прарвацца праз шчыльныя рады міліцыянтаў. Але яны выставілі браніраваныя спэцатрады міліцыі, якія дубінкамі і сілай адагналі на мэтраў 50 ад плошчы, перагароджанай папярок аўтобусамі, людзей. Два чалавекі былі арыштованыя. Дзьве сьцяны стаялі адна супраць другое. Я апынуўся ў пяцёх мэтрах каля чорнае шарэнгі спэцатраду. Людзі пастаянна скандавалі ў 20 тысячаў глотак: «Ван-дэ-я!» «Да-лоў Са-ка-лоў!» «Фа-шыс-ты!» Марачкін Алесь і іншыя кіраўнікі пайшлі на перагаворы зь міліцыяй. Процістаяньне цягнулася хвілін 20-30, пакуль ня прыйшлі дэпутаты Шушкевіч і другія. Праз гучнагаварыцель яны абвесьцілі аб выніках сэсіі. Сказалі, што галасаваньне яшчэ не адбылося, але дэлегаты настроеныя рашуча супраць антыдэмакратычных законаў вакол праблемы выбараў ад грамадзкіх арганізацыяў, акружных сходаў і іншага, і ёсьць шансы, што гэтыя пытаньні вырашацца станоўча. Выступіў і Зянон Пазьняк (старшыня Сойму БНФ — рэд. «Б-са»). Ён заклікаў, каб заўтра зноў прыйшлі людзі на 18-ю гадзіну. Тут быў і мэр Менску Міхасёў, які паабяцаў прапусьціць дэманстрантаў на плошчу да дэпутатаў. У пятніцу (27-га) сабралася людзей яшчэ больш. Частка здолела прайсьці да Белдзяржунівэрсытэту, частка да Дому кіно, якіх тут-жа блакіравалі, астатнія былі блакіраваны каля Галоўпаштамту. Спробы прарвацца не ўдаліся. Затым да разрозьненых групаў падыйшлі дэпутаты і папрасілі сабрацца ўсіх на плошчы каля Дому палітасьветы. Спачатку ўсе групы сабраліся каля Галоўпаштамту, а затым пад бязупынные скандаваньне «Ван-дэ-я!» «Да-лоў Са-ка-лоў!» «Жыве Беларусь!» людзі рушылі па праспэкце і да плошчы каля Дому палітасьветы. Там адбыўся мітынг. Дэпутаты абвесьцілі аб выніках галасаваньня. Можна сказаць, што мы атрымалі перамогу: адміністрацыйна-камандная сыстэма пайшла на кампраміс у пытаньні выбараў ад грамадзкіх арганізацыяў (выбіраць сваіх дэпутатаў будуць толькі дзьве: вэтэраны і інваліды). Але ёсьць апаска, што ўсё начальства стане сьляпымі, глухімі, калекамі.

Зьнятыя таксама акружныя сходы, і гэта ўжо перамога.

# ДАПАМОГА АХВЯРАМ ЧАРНОБЫЛЯ

**Ліст БАЗА да БНФ**

8 лістапада 1989 г.

Сойму
Беларускага Народнага Фронту
за перабудову
«АДРАДЖЭНЬНЕ»

Паважаныя Спадары!

Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне падтрымвае зварот устаноўчага зьезду БНФ да ўсіх народаў сьвету і да беларускай эміграцыі з просьбай аб дапамозе мэдыцынскай тэхнікай і мэдыкамэнтамі, а таксама грашыма, для лячэньня хворых ад чарнобыльскае радыяцыі. Беларусы Амэрыкі гатовыя даць такую дапамогу, але заяўляюць, што будуць перасылаць яе толькі на рукі Беларускага Народнага Фронту і толькі пры ўмове, што далейшае разьмеркаваньне дапамогі будзе праводзіцца з удзелам прадстаўнікоў БНФ.

Камітэт дапамогі ахвярам Чарнобыля ў Беларусі, які фармуецца цяпер зь ініцыятывы Архіепіскапа Мікалая, Першагіерарха Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, і ў які ўвайшлі прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў ЗША і Канады, просіць дзеля гэтага падаць адпаведны адрас БНФ і банкавае конта, куды перасылаліся-б апараты, мэдыкамэнты й грошы. Адрас Камітэту тымчасам той самы, што й галоўнае ўправы БАЗА.

Паведамляем таксама, што ў Вашынгтоне нашаму прадстаўніку было сказана, што калі-б была фармальная просьба ад ураду БССР да ўраду ЗША аб дапамозе ахвярам Чарнобыля, дык справа дапамогі магла-б быць куды больш эфэктыўнай. Падобнае сказалі ў Атаве і прадстаўніку Згуртаваньня Беларусаў Канады. Беларусы Амэрыкі й Канады спадзяюцца дзеля гэтага, што ўрад БССР зьвярнецца з адпаведнай просьбай да амэрыканскіх і канадзкіх уладаў — у імя ратаваньня здароўя ахвяраў радыяцыйнай катастрофы.

Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне запэўняе таксама, што яно зробіць усе магчымыя захады, каб прыцягнуць да гэтае міласэрнае акцыі дапамогі ахвярам Чарнобыля амэрыканскія дабрадзейныя арганізацыі ды шырэйшыя колы амэрыканскага грамадзтва.

Ад імя галоўнае ўправы БАЗА.

З найлепшымі пажаданьнямі
**Антон Шукелайць**
**Старшыня**

# КПБ І ДЗЯРЖАЎНАСЬЦЬ МОВЫ

На пленуме ЦК КПБ 18 кастрычніка сёлета першы сакратар кампартыі Беларусі Я. Сакалоў сказаў: «Некаторыя таварышы прапануюць прыняць Закон аб дзяржаўнасьці беларускае мовы й безадкладна ўвесьці яго ў дзеяньне. Супраць першае часткі гэтае прапановы пярэчаньняў быць ня можа. А як быць з другой часткай?»

З другой часткай Сакалоў параіў не сьпяшацца, бо няма патрэбнае «матар'яльна-тэхнічнае базы ў сфэрах асьветы, культуры, навукі, гандлю й абслугі», няма перакладчыкаў, у рэспубліцы вялікая колькасьць расейскага жыхарства, навукова-тэхнічная і мастацкая літаратура «прыходзіць да нас у асноўным у расейскай мове». «Без павароту грамадзкае думкі да моўных праблемаў, — сказаў Сакалоў, — удалага руху наперад мы не дасягнем».

Сам Яфрэм Сакалоў беларускае мовы ня ведае і ў абароне ейных інтарэсаў асабіста ніколі не выступаў. Наадварот, Сакалоў кожны раз знаходзіць розныя тлумачэньні, каб выпраўдаць русыфікацыю і захаваць статус кво.

Цяпер працоўная група пры Прэзыдыюме Вярхоўнага Савету БССР, на чале якое стаіць пісьменьнік і навуковец Ніл Гілевіч, выпрацоўвае «тлумачэньні аб парадку ўвядзеньня ў дзеяньне закону аб мовах у Беларускай ССР». Праект, пасьля ягонага разгляду ў Прэзыдыюме ВС БССР, будзе пастаўлены на ўсенароднае абмеркаваньне.

## БЕЛАРУСКІ ПРАДСТАЎНІК У ЭТНІЧНАЙ РАДЗЕ

Губэрнатар штату Нью-Джэрзы Томас Кейн прызначыў сп-ню Ірэну Рагалевіч-Дутко за прадстаўніка беларускае грамады ў штатную Этнічную Раду, якая займаецца справамі нацыянальна-культурнае спадчыны.

Зычым сп-ні Рагалевіч-Дутко вялікіх удачаў на гэтым становішчы.

***Ліст у Рэдакцыю***

Паважаная рэдакцыя!

Са спазьненьнем прачытаў у «Беларусе» № 357а, нібыта я разам з Васілём Сёмухам узяўся перакладаць на беларускую мову Сьвятое пісаньне. Гэта не адпавядае сапраўднасьці. Я не адчуваю сябе ні дастаткова падрыхтаваным, ні дастаткова таленавітым, каб рабіць такую вялікую і адказную справу. Таму калі ў сувязі з Тысячагодзьдзем хрышчэньня Русі ўзьнікла пытаньне аб новым перакладзе Сьвятога пісаньня, я выступіў толькі ў ролі пасярэдніка, наладзіўшы першыя кантакты паміж Мітрапалітам Мінскім і Беларускім Філарэтам і таленавітым перакладчыкам Васілём Сёмухам, які ахвотна падрадзіўся з прапановай.

Хацеў-бы таксама заўважыць, што ў Менску ўжо даўно два консульствы (ПНР і ГДР), а не адно, як пра гэта пісаў «Беларус» у № 359.

**Адам Мальдзіс**

## ЧАРНОБЫЛЬ: «МАГЧЫМАСЬЦЬ ДЛЯ НАЗІРАНЬНЯЎ...»

*Выпіска з «Запісак аб радыяцыі» Барыса Сачанкі («Літаратура і мастацтва», 25.VIII.89).*

«Гадамі дбалі пра ўсё, толькі не пра чалавека. І цяпер у некаторых кіраўнікоў асталося тое самае — выканаць любым шляхам загад зьверху, выканаць даведзеныя дзяржавай пляны і ўзятыя абавязацельствы, адрапартаваць, а там, як кажуць, хоць трава не расьці. 'Як-жа мы адпусьцім ці выселім людзей? А хто-ж працаваць будзе?' — чулі мы і ў раёнах, і ў вобласьці...

---

«Ля магазыну — натоўп жанчын. Чакаюць, калі прывязуць хлеб.

— Як-жа зь іншымі прадуктамі — ці прывозяць?

— Хоць-бы хлеб прывозілі. Астатняе сваё ядзім.

— Дык-жа нельга, забаронена!

— А ня еўшы, ня піўшы хіба-ж можна жыць?

— Што, зусім нічога не завозяць?

— Каму мы трэба, пэньсіянеры. Хутчэй памром, дзяржаве эканомія: пэньсіі ня трэба будзе плаціць. Ды калі яйкі, малако і прывозяць, то яны ня лепшыя за нашыя. У адной вёсцы бяруць, а ў другую возяць.

— Хто вам такое сказаў?

— Шафёры.

— Адкуль яны ведаюць?

— Дык-жа яны сюды-туды возяць і тое малако, і тыя яйкі. Вядома-ж не па сваёй волі, а па загадах начальства...

---

«Пазванілі зь кінастудыі, прапанавалі напісаць сцэнарый фільму пра падзеі, зьвязаныя з аварыяй Чарнобыльскай АЭС.

— Вы-ж гэта ведаеце, вам гэта блізка...

— А штоб- вы хацелі бачыць у кінасцэнарыі? — спытаў я асьцярожна.

— Заданьне начальства такое — больш аптымізму! А то ў апошні час чуткі розныя паўзуць...

«Не, аптымізму ў мяне няма. Хутчэй наадварот — суцэльны чорны пэсымізм, асабліва, калі ўспамінаю тыя мясьціны, якія сходжаны мною ўздоўж і ўпоперак...

«Пісаць 'аптымістычны' кінасцэнарый я адмовіўся...

---

«Тон і пафас выступленьняў маскоўскіх вучоных аптымістычны, некаторыя выказваюць ледзь ня радасьць, што адбылася гэтая аварыя, маўляў, такая магчымасьць для назіраньняў і розных экспэрымэнтаў зьявілася, якой ня маюць вучоныя ні адной краіны сьвету...».

## АГЕНЦТВА «БЕЛСТАР»

Бюлетэнь «Белорусская Трибуна» № 9(13) зьмясьціў абвестку:

У жнівені 1989 году ў Менску на базе рэдакцыяў колькіх неафіцыйных газэтаў было створанае інфармацыйнае агенцтва «БелСтар» (BELSTAR) — «Беларуская зорка».

Агенцтва аб'ядноўвае людзей розных палітычных перакананьняў і дзейнічае ў інтарэсах вольнага абмену інфармацыяй. Сваймі заданьнямі яно ставіць:

— апэратыўнае зьбіраньне й агбагульняньне аб'ектыўнай інфармацыі пра падзеі ў Беларускай Рэспубліцы (праз собскую сетку карэспандэнтаў і назіральнікаў), выпуск экспрэсматар'ялаў у расейскай, беларускай ды іншых мовах народаў сьвету;

— каардынацыю дзейнасьці незалежных выданьняў, уключаючы тэхнічную й матар'яльную дапамогу ў выпуску тыражаваньні, дастаўе й пашырэньні;

— юрыдычную абарону, аўтараў і незалежных выдаўцоў;

— стварэньне Грамадзкае бібліятэкі самвыдавецкае літаратуры;

— выпуск плякатаў і лістовак, а таксама публіцыстычнае літаратуры, публікацыя якое забароненая Галоўлітам з мэтай аховы зусім не ваенных тайніцаў;

Адрас агенцтва: 220116, г. Менск, а/я 385 (сталага памешканьня яно тымчасам ня мае).

# «ВАСІЛЁК» НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

Танцавальны ансамбль Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі «Васілёк» у складзе 20 асобаў пад кіраўніцтвам др. Алы Орса-Рамана ў другой палавіне чэрвеня сёлета даў дзевяць канцэртаў на Беласточчыне: у Гайнаўцы (2), Бельску (2), Белавежы, Сямятычах, Беластоку (3). «Васількі» правялі цэлы шэраг афіцыйных і прыватных сустрэчаў, азнаёміліся зь беларускім жыцьцём Беласточчыны, у тым ліку й з праявамі польскага шавінізму, завязалі сяброўскія сувязі зь беларускай моладзяй як зь Беласточчыны, гэтак і з Савецкае Беларусі, пакінулі па сабе незабыўныя ўражаньні і самі засталіся з гэткімі-ж незабыўнымі ўспамінамі.

У падарожжа на Беласточчыну езьдзілі: Азарка Нона і Юрка, Бартуль Аня і Вера, Бахар Галіна і Коля, Данілюк Ліда, Запруднік Вера, Захаркевіч Надзя, Кіпель Алеся і Юрка, Рамана Ала, Коля і Павал, Рыжы Дарота і Пётра, Сурвіла Паўліна, Суіні Лёрэйн, Тур Віктар, Шульжыцкая Тацьцяна.




*Пасьля першага выступу ў Гайнаўцы ў «васількоў» завязалася дружба зь сябрамі Беларускага Аб'яднаньня Студэнтаў (БАС) і сябрамі літаратурнага клюбу «Парнас» зь Бельску.*



*Сябры БАСа, пасьля 5-гадзіннага падарожжа аўтобусам зь Беластоку, вітаюць «Васілька» на варшаўскім аэрапорце.*



*Кіраўнік ансамблю «Дубіны» Пятро Скепка — праваднік, і дбайлівы апякун, і трымальнік добрага настрою гумарыстычнымі песьнямі.*



*На памяць аб сустрэчы з «Васільком» вучням Бельскага ліцэю застануцца сувэніры — кашулькі з Пагоняй.*



*Што паміж намі супольнага? — Песьня! Сьпяваем разам, памагаючы сабе нававыдадзеным сьпеўнікам «Гарыць вогнішча».*



*Вогнішча ў Белавескай пушчы — першае з шасьцёх, ля якіх замацоўвалася сяброўства й задавальняўся жаранінай добры апэтыт.*



*Дзяўчаты «Васілька» самі назьбіралі красак і сплялі вяночкі да Купальскага сьвята.*



*Будучы Беларускі музэй у Гайнаўцы, будаўніцтву якога памагаюць і амэрыканскія Беларусы.*



*Частка аўдыторыі ў беластоцкім амфітэатры ў часе Фэстывалю беларускай культуры. «Васілёк» усюды карыстаўся нязьменнай папулярнасьцяй.*



*Гасьцінны мастак Лёнік Тарасэвіч ў сваёй студыі частаваў наведнікаў з Амэрыкі духоваю й фізычнай ежай. Там-жа была падпісаная дэклярацыя аб супрацоўніцтве паміж сябрамі БАС і АБАМ.*



*Першыя крокі 17-кілямэтровага маршу зь Лёнікавага дому ў Мастаўляньне да месца нараджэньня Кастуся Каліноўскага.*



*Прыемна было пазнаёміцца й абмяняцца паглядамі з журналісткамі Алай Чачугай (зьлева, «Ніва») і Тацьцянай Антонавай («Голас Радзімы»).*



*Гатовыя да чарговага выступу, гэтым разам на чыгуначнай станцыі ў Белавежы.*



*Апошняе вогнішча ў Мастаўлянах і сустрэча з прыязнымі мясцовымі жыхарамі.*



*Змучаныя? — Ды не! Кожнаму ставала пáры гадзінаў сну ў прамежках паміж практыкаваньнем, выступаньнем, мыцьцём і гладжаньнем касьцюмаў, сьпяваньнем, гуляньнем, жартаваньнем, наведваньнем... Высьпімся дома!*

## ВОДГУЛЬЛЕ ДАНЧЫКАВЫХ ПЕСЬНЯЎ

У кастрычніку-лістападзе сёлета Данчык даў каля 20 канцэртаў у Менску, Віцебску, Гародні, Полацку, Вільні, Маскве, на Беласточчыне. Пра выступленьні гэтыя пісалі блізу ўсе газэты БССР, зьмяшчалі вельмі прыхільныя ацэны, фатаграфіі, бралі інтэрв'ю са сьпеваком і ягонаю маці сп-няй Юляй Андрусышынай. Цяпер у Амэрыку прыходзяць лісты ад некаторых слухачоў канцэртаў, якія пацьвярджаюць і ўзмацняюць тое, што пісалі газэты. Вось адна маладая дзяўчына піша з Гародні сваёй цётцы ў Каліфорніі:

«На Данчыкавым канцэрце каля нас сядзеў мужчына гадоў 45, то ён плакаў. Мая суседка, яна Ўкраінка, як засьпяваў Данчык на ўкраінскай мове, таксама заплакала. Ён сьпяваў з мужам Вольгі Корбут, і адзін сьпяваў на беларускай, англійскай, францускай, украінскай мове. Шмат адказваў на пытаньні, і вельмі прыгожа гаварыў пабеларуску. Людзей было тысяч пару... Запрасілі на сцэну і маці Данчыка. Яна таксама вельмі прыгожая жанчына... Пасьля канцэрту мая суседка гаворыць, што ніколі ня думала, што беларуская мова такая прыгожая, і ў яе і ў мяне паявілася жаданьне гаварыць на беларускай мове. Калі прыедзе пару раз яшчэ, то напэўна ўсе захочуць гаварыць на беларускай мове. Некаторыя ў чэсьць яго назвалі сваіх сыноў Данчыкамі. Цяпер многія гавораць і ў нас на беларускай мове, але так прыгожа як ён — ніхто».

У падобным духу напісала маладая мянчанка ў Нью-Ёрк свайму бацьку-дэлегату на Генэральнай Асамблеі ААН. Яна таксама зазначыла, што пераходзіць на беларускую мову.

Адна чытачка газэты «Беларус» з гораду Чыкага прыслала ў рэдакцыю ліст, у якім кажа: «Зь Беларусі знаёмыя і сваякі пішуць з захапленьнем аб канцэртах Данчыка. Часта плацілі вельмі дорага за білеты — абы толькі пачуць і пабачыць яго. Пасьля канцэрту людзі пачалі прыпамінаць і гаварыць роднай мовай».

А вось якое абагульненьне Данчыкавых выступленьняў даў наш дапісчык зь Менску:

«Усю грамадзкасьць Беларусі, нават людзей далёкіх ад культурнага і нацыянальнага жыцьця нашага народу, ускалыхнула выступленьне Данчыка Андрусышына. Яго творчы дэбют паспрыяў ня толькі фармаваньню нацыянальнай сьвядомасьці нашага народу, прабудзіў цікавасьць да жыцьця Беларусаў за мяжой, але паспрыяў кансалідацыі паміж усімі Беларусамі. Тут трэба ўлічваць, што Данчык прыехаў у вельмі спрыяльны час, калі мяняюцца погляды народу, якому пастаянна прамывалі мазгі ідэялягічным бульлёнам, добра прыпраўленым сталінізмам. Нават чыноўны люд пачаў пераглядаць свае заскарузлыя ідэі і нормы адносін да суайчыньнікаў за мяжой».

*Рэцэнзія*

## БЕЛАРУСКІЯ БАРДЫ

Касэта пад назовам «Мы адной Табе належым» шыракаведамых беларускіх бардаў-сьпевакоў Багдана-Данчыка Андрусышына й Леаніда Барткевіча — гэта, бязмоўна, радасная падзея для беларускай культуры і запраўдны падарунак для кожнага аматара беларускай музыкі. У дуэтах з Данчыкам выступае Леанід Барткевіч, таксама як саліст і здольны кампазытар у «Песьні аб радзіме». Ягоны добра пастаўлены голас, шырокага дыханьня і прыемнага, мяккога тэмбру, выразна перадае паэтычныя вобразы тэксту, а ў дуэтах з Данчыкам арганічна зьліваецца з Данчыкавым голасам, ствараючы прыгожую, гарманічную сугучнасьць.

Шмат што пісалася пра пяшчотны й лірычны Данчыкаў голас, які ўваходзіць у душу й міжвольна захапляе слухача. Данчык даўно ведамы і на Беларусі, дзе паводля колькасьці прыхільнікаў займае адно зь першых месцаў сярод савецкіх і сусьветных выканаўцаў жанру эстраднай песьні. У менскай газэце «Літаратура і мастацтва» ад 13-га кастрычніка сёлета на першай старонцы зьмешчаны вялікі партрэт Данчыка і артыкул, дзе яго называюць «беларускім салаўём» і прадаўжальнікам справы векапомнага Міхася Забэйды-Суміцкага, які «стараўся сваёй песьняй закрануць найдалікатнейшыя, самыя патаёмныя й лепшыя струны чалавечага сэрца», як азначаў ён сам гуманістычную мэту свайго мастацтва. Імя Данчыка даўгі час было легендай на Беларусі, і ягоныя канцэрты на Бацькаўшчыне, разам зь сябрамі Леанідам Барткевічам і Сяржуком Сокалавам-Воюшам, мелі вялізарную ўдачу.

Данчык мае голас унікальнага тэмбру, яго адразу можна пазнаць па пяшчотнасьці й лірычнасьці, па тонкай перадачы адценьняў тэксту, па сьвядомасьці фразіраваньня, па дакладнасьці інтанацыі. Трэба адзначыць і здольнасьць Данчыка філіраваць гук, паступова пераходзіць ад абсяжнага фортэ да ледзь чутнага, пяшчотнага піяна.

12 песьняў, запісаных на касэту ў выкананьні Данчыка й Барткевіча, маюць розны характар. Творы сучасных і мінулага часу кампазытараў і паэтаў адлюстроўваюць патрыятычны ўздым, сузіральную лірыку, любоўныя пачуцьці. Розны жанр песьняў, розны кампазытарскі стыль, розны эмацыянальны напал... Але праз увесь цыкль песьняў праходзіць адзіны, скразны ляйтматыў — шчырая адданасьць роднаму краю. «Мне краёў чужых ня трэба» — сьпявае Данчык, і Барткевіч уторыць яму: «Толькі дзе за морам ні жыў я, Беларусь мая сьнілася мне». Таму трэба прызнаць трапным назоў цыклю — «Мы адной Табе належым».

Мадэрнае й цікавае аранжыраваньне Алеся Кузышына не перагружвае мэлёдыі, арганічна ўпісваецца ў інтанацыйную структуру песьняў, дапамагаючы стварэньню плястычнага музычнага вобразу.

Высокаякасны стэрэазапіс песьняў здольны задавольніць самага патрабавальнага слухача й дае яму магчымасьць атрымаць поўную асалоду пры праслухоўваньні касэты.

Вельмі важнае ў творчай дзейнасьці музыканта — пытаньне рэпэртуару. З музыканта — пытаньне рэпэртуару. З стаяць на даволі высокім мастацкім узроўні. Складальнікі праграмы выявілі ў падборы песьняў добры густ і эстэтычнае пачуцьцё. Але яны абмінулі беларускую народную песьню, якую заўсёды выконваў у сваіх канцэртах Забэйда-Суміцкі, каб паказаць слухачом ёйную сваеасаблівасьць і. харастьво. У першай кружэлцы Данчыка «Я ад вас далёка» цудоўная беларуская песьня «Перапёлачка» была адным зь лепшых нумароў праграмы. А колькі прыгожых песьняў можна знайсьці ў скарбніцы беларускай народнай песьнятворчасьці!

У сваім «Апокрыфе» Максім Багдановіч пісаў: «Штодзённымі клопатамі поўніцца жыцьцё людзкое. Але калі зварухнецца душа чалавека, — толькі песьня здолее спатоліць яё. Шануйцеж песьні свае».

**Алесь Карповіч**

*З жыцьця ў Чыкага*

## БЕЛАРУСКІ ФІЛЯТЭЛІСТЫЧНЫ СТЭНД

Ад 6 да 8 кастрычніка сёлета ў залі Ўкраінскага культурнага цэнтру ў Чыкага Ўкраінскае філятэлістычнае і нумізматычнае таварыства наладзіла выстаўку паштовых марак, грашовых банкнотаў і манэтаў зь мінулых часоў. На выстаўцы апрача ўкраінскіх, былі таксама беларускі, літоўскі й польскі стэнды. Кіраўніком выстаўкі быў наш суродзіч Багдан Паўкэ, ён-жа заступнік старшыні Ўкраінскага філятэлістычнага Т-ва на Злучаныя Штаты.



*Багдан Паўкэ, кіраўнік філятэлістычнай выстаўкі, з адным наведнікам.*

Трэба замеціць, што выстаўка была салідна падрыхтаваная і цешылася вялікай удачай сярод шматлікіх наведнікаў. Беларускі стэнд, уладжаны сп. Паўкэ, выглядаў прываблна і складаўся з шасьцёх панэляў, што храняялягічна прадстаўлялі на лістох і паштоўках беларускія маркі пэрыяду 1915-1923 гадоў, выпушчаныя на тэрыторыях пад рознымі акупацыйнымі ўладамі, а таксама маркі Беларускай Народнай Рэспублікі. Экспанаваліся таксама паштовыя маркі царскай адміністрацыі, гэбрэйскія маркі, выпушчаныя ў Слоніме ў 1915 годзе; маркі расейскага Часовага ўраду 1917 году; нямецкага акупацыйнага ўраду (1916-18 гг.); польскай адміністрацыі (1918-20 гг.); літоўскай і ўкраінскай адміністрацыяў на частках беларускіх тэрыторыяў (1918-19 гг.). Бязумоўна, найцікавейшы паказ быў марак БНР (1919-21 гг.) з выявамі на іх «Пагоні», аратага, Асобага Атраду Беларускай Дывізіі ген. Станіслава Булак-Балаховіча з часоў Слуцкага паўстаньня; добра быў прадстаўлены пэрыяд Літоўска-Беларускай Савецкай Рэспублікі 1919 году. Былі маркі мясцовай савецкай адміністрацыі ў Менску ў 1921 годзе, а таксама з пэрыяду савецкай інфляцыі 1922-23 гадоў. З новых падсавецкіх марак фігуравала толькі адна з партрэтам Францішка Скарыны, выпушчаная да 500-гадовага юбілею беларускага першадрукара й перакладніка Бібліі ды першадрукара Ўсходняе Эўропы.

Трэба адзначыць, што Багдан Паўкэ старанна падрыхтаваў беларускі стэнд, выказаў пасьлядоўнасьць у падборы матар'ялу, даў ясныя апісаньні й адпаведныя загалоўкі, выявіўшы пры гэтым глыбокую філятэлістычную веду, а таксама крапатлівасьць у зьбіраньні рэдкіх марак і добры густ у уфармленьні стэнду. За гэтыя прыкметныя якасьці сп. Паўкэ дастаў залаты мэдаль і першую ўзнагароду.

Трэба зазначыць, што Б. Паўкэ бярэ актыўны ўдзел у філятэлістычнай дзейнасьці ўжо дзесяць гадоў, ён стаўся экспэртам у беларускай філятэлістыцы ў Амэрыцы ды хіба ў цэлым замежжы і ўсюды ўжывае арыгінальны назоў Беларусі ў ангельскай мове (Bielaruś).

У 1984 годзе ён экспанаваў беларускія паштовыя маркі на ўкраінскай філятэлістычнай выстаўцы ў Нью-Ёрку і дастаў залаты мэдаль. У травені 1986 году на сусьветнай выстаўцы ў Чыкага даў два даклады са слайдамі пра беларускі паштовыя маркі, пазьней у тым-жа годзе ў Чыкага на польскай выстаўцы дастаў сярэбраны мэдаль за беларускія філятэлістычны стэнд. У 1987 г. на міжнароднай выстаўцы ў Вене (Аўстрыя) дастаў залаты мэдаль за беларускія паштовыя маркі, а ў 1988 г. на літоўскай выстаўцы ў Чыкага — залаты мэдаль за беларускі філятэлістычны стэнд.

Як паінфармаваў Багдан, гісторыя беларускай падсавецкай філятэлістыкі была апублікаваная парасейску ў кніжцы Л. Л. Коласава «Филателия Белоруссии» (1988 г.).

Трэба тут згадаць таксама, што Б. Паўкэ паказаў як кур'ёз для філятэлістаў падробленыя ў Празе (Чэхаславаччына) у 1930-х гадох паштовыя маркі «Асобага Атраду» ў чатырох сэрыях.

Беларускае грамадзтва вельмі — ўдзячнае Багдану Паўкэ за ягоную выдатную працу на ніве беларускае філятэлістыкі й жадае яму шмат удачаў у будучыні.

**Др. Вітаўт Рамук**

**Абвестка-запросіны**

### КАЛЯДНЫ ФЭСТЫВАЛЬ!

Калядны фэстываль у Музэі навукі й індустрыі (Museum of Science and Industry) у Чыкага, з паказам ялінак і сцэнічных праграмаў, пачынаецца 24 лістапада сёлета і пратрывае да 1 студзеня 1990 году. Беларускі паказ «Каляды ў Беларусі» будзе зладжаны ў сыботу 2-га сьнежня а 2-й гадзіне папаўдні.

### «ФОС» № 5/89

Пяты нумар самвыдавецкага часапісу беларускае праваслаўнае моладзі Беласточчыны прысьвечаны Вялікадню. У нумары: верш Ларысы Геніюш, пасланьне, рэпрадукцыя вялікоднага Евангельля з напрастольнага Евангельля, выдадзенага Архіепіскапам БАПЦ Мікалаем, артыкулы пра Ерусалім, пра сьв. гару Афон; выказваньні маляра Лёніка Тарасэвіча пра мастацтва; выпіска зь дзёньніка пісьменьніка Ул. Караткевіча; павучаньне аб малітвах; хроніка.

# У КАНАДЗКАЙ ЭТНАКУЛЬТУРНАЙ РАДЗЕ

У сыботу 21 кастрычніка ў Манрэалі адбылося паседжаньне старшыняў і дэлегатаў сяброў-арганізацыяў, што належаць да Канадзкай Этнакультурнай Рады (КЭР, усіх 37 арганізацыяў). Заданьне КЭР, якая была створана ў 1980 годзе зь ініцыятывы этнічных арганізацыяў — абарона культурных, грамадзкіх і палітычных інтарэсаў этнакультурных груп Канады. КЭР — арганізацыя паважаная, зь ёю лічыцца ўрад Канады.

Беларусаў на манрэальскай нарадзе рэпрэзэнтавалі старшыня Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады (ККБК) др. Раіса Жук-Грышкевіч і сп-ня Рагнеда Рагуля-Роўз. Шмат часу адведзена было справаздачам старшыні й сяброў управы КЭР ды старшыняў 19-ці камітэтаў.

Этнічныя групы занепакоеныя фактам, што фінансаваньне іхняй дзейнасьці ўрадам мае быць на працягу пяцёх гадоў абніжана на 50%. КЭР і пасобныя этнічныя арганізацыі павінны пратэставаць супраць гэтага.

Разглядалася прапанова фэдэральнага ўраду аб стварэньні Дэпартамэнту Шматкультуралізму і Грамадзянства. Было прынята рад канкрэтных рэкамэндацыяў да гэтага праекту. У сувязі з гэтым ККБК выслаў на рукі ўстаўадаўчага камітэту рэкамэндацыі, увядзеньне якіх запэўніла-б створанаму дэпартамэнту большае значэньне й эфэктыўнасьць.

Абмяркоўвалася таксама справа іміграцыі на 1990 год. КЭР прапануе ўраду Канады збольшыць лік імігрантаў да 1% насельніцтва Канады.

**Грамадзкі форум** адбыўся ў нядзелю 22 кастрычніка з удзелам прадстаўнікоў этнічных арганізацыяў у Манрэалю. Беларускую групу рэпрэзэнтавалі, апрача старшыні ККБК, старшыня Згуртаваньня Беларусаў правінцыі Квэбэк сп. Анатоль Храноўскі, сп-ня Крыстына Храноўская, сп-ня Абадзінская, сп-ня Аліна Скурат-Аіе, сп. Рыгор Храноўскі і сп-чны Галена і Ларыса Храноўскія.

З дакладамі выступілі Міністар працы і іміграцыі фэдэральнага ўраду сп-ня Барбара Мэк-Дугал і Міністар этнічных групаў і іміграцыі Квэбэку сп-ня Монік Ганьём-Трамбле. На маё пытаньне — якія магчымасьці іміграцыі з Савецкага Саюзу, а менавіта зь Беларускай ССР? — міністар адказала, што Канада ня мае ўнармаваных дачыненьняў з Савецкім Саюзам і кожны выпадак разглядаецца асобна мясцовай іміграцыйнай уладай.

**Раіса Жук-Грышкевіч**

# ЗАКАНЧЭНЬНЕ НАВУКІ



*Коля Рамана*

Коля Рамана выдатна скончыў навуку ў Фордамскім унівэрсытэце ў Нью-Ёрку, факультэт фінансаў і мэнаджмэнту. На працягу чатырох гадоў навукі ён атрымоўваў дзьве стыпэндыі: адну ад штату за добрыя вынікі ў навуцы, а другую ад унівэрсытэту за дасягненьні ў спорце — плаваньні й водным полё, дзе ён меў тытул «найбольш заслужанага гульца».

З самых малых гадоў Коля быў актыўным удзельнікам беларускага жыцьця ў Нью-Ёрку, хадзіў у Беларускую сыботнюю школку (дзе ягонай галоўнай настаўніцай была сьв. пам. Зінаіда Станкевіч), часта выступаў у школьных канцэртах.

Цяпер малады бізнэсмэн Коля Рамана — сябра Згуртаваньня Беларуска-Амэрыканскае Моладзі, танцаўнік ансамблю «Васілёк».

Управа БАЗА шчыра вітае Колю Рамана з заканчэньнем навукі ды зычыць яму вялікіх удачаў у прафэсійнай і грамадзкай дзейнасьці.

*З жыцьця ў Канадзе*

## ПРА БЕЛАРУСКУЮ КУЛЬТУРУ

На Лявальскім унівэрсытэце ў Манрэалі 2-4 чэрвеня адбыўся гадавы кангрэс канадзкіх навуковых таварыстваў, у праграме якога Згуртаваньне Канадзкіх Славістаў правяло сэсію, прысьвечаную беларускай культуры. Былі прачытаныя даклады: др. Зіна Гімпелевіч (Атаўскі ў-т) — «Уладзімер Караткевіч і ягоны ўплыў на сучаснае беларускае адраджэньне»; Івонка Сурвіла (БІНіМ) — «Нацыянальная сымболіка і тэматыка ў сучасным мастацтве Беларусі» (пафранцуску, ілюстраваны дыяпазытывамі); Марыя-Паўля Сурвіла-Вахман (Мічыганскі ў-т, ЗША) — «Уплыў музычнага выкананьцы на эвалюцыю і ўспрыйманьне народнага музычнага мастацтва: прыклад беларускага сьпевака» (ілюстраваны ўзорамі беларускіх народных песьняў).

Старшынäваў на сэсіі праф. Атаўскага ў-ту др. Дагляс Клэйтан. Даклады былі высака ацэненыя аўдыторыяй, якая выказала жаданьне пачуць больш пра беларускую культуру на наступным кангрэсе, што адбудзецца ў 1990 годзе ў Вікторыі (Брытанская Калюмбія).

## ДЗЕНЬ ЧОРНАЙ ІСТУЖКІ

23-га жніўня Беларусы, разам з прадстаўнікамі народаў Усходняй і Цэнтральнай Эўропы, узялі ўдзел у маніфэстацыі перад Канадзкім парлямэнтам у Атаве, каб нагадаць усім пра ганебны пакт Рыбэнтропа-Молатава, што папярэднічаў Другой сусьветнай вайне. Беларускі сьцяг горда несла ў прыгожым нацыянальным строі студэнтка Ганна. Да дэманстрантаў прамаўлялі прадстаўнікі трох галоўных палітычных партыяў Канады.

У аўдыторыі Атаўскага ў-ту, дзе былі прачытаныя два прынагодныя даклады, пашыралася інфармацыя пра сучаснае палажэньне на Беларусі ў дзьвюх афіцыйных мовах краіны, ангельскай і францускай. Беларускі прадстаўнік даў інтэрв'ю карэспандэнту міжнароднае праграмы Канадзкага радыё.

**Я. С.**

# «СПАДЧЫНА» Ў ЗАХ. НЯМЕЧЧЫНЕ

У канцы верасьня сёлета па гарадох Заходняй Нямечыны правеў турнэ калектыў народнай песьні й танца «Спадчына» з гораду Маладэчна. Ансамбль выступіў у дзесяцёх гарадох, у тым ліку ў Гайдэльбэргу, Майнгайнцы, Карльсруэ, Гальбраўне й Штутгарце. На апошнім іхным канцэрце ў Штутгарце ўдалося пабывааць і мне.

Насамперш уразіла тое, што арганізатарам канцэрту была нямецкая Камуністычная партыя. Адкрыцьцё адбылося ў тыповым камуністычным прапагандавым духу. На пачатку выступіла прадстаўніца ДКП, а за ёй слова ўзяў кіраўнік партыйнай арганізацыі з Маладэчна, які гаварыў парасейску. І, магчыма, той факт, што арганізатарам канцэрту былі камуністы, спрычыніўся да таго, што заля была запоўненая толькі напалавіну. Аднак-жа публіка, у пераважнай бальшыні нямецкая, прыйшла на канцэрт дзеля беларускага народнага мастацтва, і было відаць, што пакідала канцэртную залю задаволенай.

З мастацкага гледзішча канцэрт маладэчанцаў быў надзвычай удалым, можна сказаць, ашаламляльным! Беларускае народнае песенна-танцавальнае мастацтва было паказанае на высокім прафэсійным узроўні, хоць ансамбль уважаецца за аматарскі. На працягу больш як паў гадзіны артысты ня сходзілі са сцэны. Адзін за адным ішлі вясеньнія і вялікодныя карагоды, карагоды з купальскай начы, народныя абрады, бытавыя сцэнкі, народныя танцы: «Лявоніха», «Полька Янка» ды іншыя. Магутнасьць і чысьціня галасоў хору, трыё і дуэтаў пакінулі незабыўнае ўражаньне. Са сцэны гучэлі папулярныя народныя песьні. У праграме былі таксама песьні «іншых народаў», але ня шмат: дзьве расейскія песьні й адзін танец ды вянок песьняў рэспублікаў СССР. Усе беларускія песьні былі выкананыя ў прыгожай і добрай беларускай мове. Але вось артысты сыходзяць са сцэны і, як правіла для бээсэсэраўскіх калектываў, міжсобку ўсе гутараць выключна парасейску.

Пасьля канцэрту падыйшлі мы (а было нас, Беларусаў, некалькі) да артыстаў, каб падзякаваць за выступленьне, пагутарыць зь імі. Як ні сумна, але амаль ніхто зь іх не размаўляў пабеларуску.

«Спадчына» пакінула на прысутных Беларусаў даволі неадназначнае ўражаньне. Захапленьне, зь якім артысты выконвалі беларускія песьні й танцы, выглядае ня зусім шчырым. Ну, але што-ж, гэта, бадай, не адзіная недарэчнасьць у сучаснай Беларусі.

**Сьцяпан Балаза**

## Анатоль Бярозка. АДЗІНАЦЦАЦЬ ВЕРШАЎ. ELEVEN POEMS.

**Выдаў: Мацьвей Рэпкаў-Смаршчок. Мантысэля ў Мінэсоце, ЗДА, 1989.**

З кароткага англамоўнага ўступу да гэтага невялікага, але прыгожа афармленага й шыкарна выдадзенага зборніка даведваемся, што «Анатоль Бярозка быў маладым беларускім паэтам, чый кароткатрывалы творчы ўзьлёт скончыўся ў катаклізьме падзеяў, што ахапілі Эўропу на пачатку 1940-х гадоў. Паэт зьнік зь літаратурнае сцэны, і гэта першая спроба за мінулае амаль паўстагодзьдзе сабраць некаторыя зь ягоных твораў».

Усе адзінаццаць вершаў пададзеныя таксама ў добрым ангельскім перакладзе.

Зборнік прыадчыняе перад намі нялёгкі для беларускага сэрца сьвет былой Заходняй Беларусі (хоць фармальна пра гэта нічога не сказана).

У адным із сваіх вершаў паэт звярачаецца да поля з просьбаю: «прыгарні ды ўсклышы... каб думы цёмныя вараньнём над галавою ня кружыліся». Але поле прагне просьбы ня выканала. «Думы цёмныя» пераважаюць у канве паэтавае душы, пра што кажа ўжо запеў-ляйтматыў, узяты ад блізкога Анатолю Бярозку Язэпа Пушчы пра «мінулага боль» і вусны, што «ня ведалі сьмеху».

Бярозкаў краявід пазначаны «хатамі беднымі, цёмнымі», якім паэт спадзяецца й дэкляруе: «сэрца маё вашай доляй жыве, вашым болем сумуе».

Аўтар жыве ў сьвеце восеньскім, вячорным і начным, калі ягоная душа найглыбей адчувае прыхаванае змрокам маўклівае людзкое гора, ці не адзінай дапамогай якому засталося толькі паэтава спачуваньне. Сэрца песьняра прагне палёгкі, выбаўленьня ад «сабачае долі», але рэальнасьць вызваленьня кволая, як сон:

Мо сасьніцца мне, што з поля віхры  
ўзьбіліся,  
цемру чорную раскалыхалі —  
з-пад сярмягаў можа бурна ўстане  
песьня — расхвалюецца разорамі  
пад лапцямі, пад нагамі босымі —  
і яшчэ раз прывітае мяне поле  
каласамі, сталі звонамі і пракосамі.

Мінорныя ноты гучаць у вершы пра сьмерць дзяўчаці, якой «усяго шаснаццаць вёснаў з вачэй глядзела», і ў «лісьце да маці», і ў рамансе «Сягоньня патухла твае акно...», і ўрэшце ў «Эпілёгу», у якім аўтар «кляне горкі лёс лізі і напружвае ў зьнямозе сілы...»

Але гэтыя настроі сьветчаць не пра кволасьць душы, а пра ейную чуласьць, спагадлівасьць да родных хатаў, што «векавою тугою набраклі». Пры ўсёй бязьмернасьці нядолі народу ды выкліканых гэтай нядоляй пакутаў, на дне паэтавай душы пануе «гордая ціш», вызваленасьць ад «нявольніцкіх уздыхаў» і гатовасьць «перад Богам маіх бацькоў» «заўтрашні дзень адчыніць сабе стальлю».

Зборнік Анатоля Бярозкі — Мацьвея Рэпкава-Смаршчка, у якім беларускамоўныя тэксты акуратна выпісаныя ад рукі і маюць інкунабульны выгляд, — гэта сьвятчаньне трывалацьці таго духа спагады й любасьці ў «душы гордай», якая па маўклівым паўстагодзьдзі падала свой голас.

**Янка Запруднік**

## «ГАРЫЦЬ ВОГНІШЧА»

**Зборнік папулярных песень**

Выдадзеная сёлета ў Бельску (ПНР) на правох рукапісу, гэтая кішэннага фармату кніжыца (96 бачынак) зьмяшчае ў сабе тэксты беларускіх патрыятычных і любоўных (народных і аўтарскіх) песьняў, якія пяе моладзь на Беласточчыне. Апрацавала зборнік Эля Бэзюк. Інсьпіратар выданьня — Веслаў Харужы зь Беластоку. Каб аблягчыць выкананьне песьняў пад гітару, да шмат якіх песьняў пададзеныя акорды.

Разам із зборнікам «Беларусь мая», што выйшаў сёлета ў Беластоку, гэта — знак культурнае й грамадзянскае актывізацыі беларускае моладзі Беластоцкага Краю.

## КАЛЯДНЫЯ ВІТАНЬНІ

Прывітайце сваіх родзічаў, сяброў і знаёмых з калядна-навагоднімі сьвятамі традыцыйным шляхам праз газэту «Беларус». Гэтым Вы падтрымаеце ня толькі добрую традыцыю, але й паможаце касе «Беларуса» (10 дал. за прывітаньне, 25 дал. за прывітаньне ў рамцы).

**Рэдакцыя «Беларуса»**

*З жыцьця ў Нью-Ёрку*

## НА ПАРАДКУ ДНЯ ЧАРНОБЫЛЬ І СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ

У нядзелю 19 лістапада ў памешканьні Фундацыі імя П. Крэчэўскага адбылася скліканая Галоўнай Управай БАЗА нарада прадстаўнікоў беларускіх арганізацыяў ньюёркскай акругі. Абмяркоўваліся справы дапамогі ахвярам Чарнобыля й наступнае Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі. Было пастаноўленая ўключыцца ў працу новастворанага Камітэту дапамогі ахвярам Чарнобыля, на чале якога стаіць Першагіерарх БАПЦ Архіепіскап Мікалай. Сталым прадстаўніком ГУ БАЗА ў Камітэце будзе др. Юрка Кіпель.

Сустрэчу Беларусаў Паўночнае Амэрыкі ў верасьні 1990 году запарапанавана правесьці ў Кліўленьдзе, узгоднiўшы гэтае пытаньне зь кіраўніцтвам Згуртаваньня Беларусаў Канады.

## УГОДКІ СЛУЦКАГА ПАЎСТАНЬНЯ. ФІЛЬМ ПРА «ВАСІЛЬКА»

19 лістапада ў Фундацыі імя П. Крэчэўскага а. Васіль Андрэюк адслужыў паніхіду па Слуцкіх паўстанцах і ўсіх ахвярах сталінізму, уключна з тымі, што загінулі ў Курапатах. У сваёй казані а. Васіль гаварыў пра абавязак маліцца і ўспамінаць суродзічаў, палеглых у змаганьні за свабоду Беларусі.

Сп. Алесь Міцкевіч прачытаў падсумаваньне важнейшых падзеяў на Случчыне і ўсёй Беларусі ў 1917-1925 гадох. Ён таксама выказаў прызнаньне танцавальнаму ансамблю «Васілёк» і ягонай кіраўнічцы др. Але Орса-Рамана. Пасьля гэтага пачалася праграма «Васілька». Ала Орса-Рамана вельмі цікава расказала аб падарожжы ансамблю ў Беласточчыну, аб ягоных танцавальных выступах, перажываньнях, спатканьнях зь беларускім актывам і наведаньні Белавескай пушчы.

Быў паказаны відэафільм пра ўсё, аб чым расказвала Ала. Яна ды іншыя сябры ансамблю паясьнялі паказанае на фільме. Аб прыдбаньні апаратуры для паказу фільму паклапаціліся Віктар Тур і Нэнсы Захаркевіч. Галіна Бахар прывезла фатаграфіі з падарожжа, якімі былі абвешаныя сьцены залі. Прысутным прыемна было слухаць расказы аб «Васільку», аглядаць фатаздымкі й глядзець фільм, зроблены Паўлінай Сурвіла. Колькі-ж аддансьці, ахвярнасьці й клопатаў трэба было «Васільку», каб пасьля паказаць свае выдатныя дасягненьні!

Сустрэча скончылася прыемным пачастункам, які падрыхтавалі сп-тва К. і М. Вераб'і й сп. А. Міцкевіч.

*З новых публікацыяў*

**BYELORUSSIAN (Bielarusian) REVIEW.** Quarterly Information Bulletin. N. 3 (Oct. 1989). Published by Byelorussian-American Association, Inc. (California). P. O. Box 10353, Torrance, CA 90505. $4.00. Subscription: $15.00 (per year).

У нумары шмат увагі прысьвечана чарнобыльскай трагедыі й нацыянальнаму адраджэньню Беларусі.

**BYELORUSSIANS IN THE UNITED STATES by Vitaut Kipel** in: ETHNIC FORUM, Journal of Ethnic Studies and Ethnic Bibliography. Vol. 9, 1989, Nos. 1-2, pp. 75-90.

Аўтар выясьняе тэрміналягічную праблему й разглядае прычыны выезду Беларусаў у Амэрыку, характарызуе розныя хвалі эміграцыі ды апісвае іхнае арганізацыйнае жыцьцё ў ЗША.

**БЕЛАРУСКІ ГРАМАДЗКІ КАМІТЭТ «ГРАМАДА». Праект праграмы.** Беласток, 1989. (7 бб.).

Дэклярацыя новастворанага камітэту «Грамада» аб агульным крызісе ў цяперашняй Польшчы ды галоўных кірунках эканамічнай, культурнай і асьветнай дзейнасьці, якія паставіў перад сабой Беларускі грамадзкі камітэт «Грамада».

## ПРАФ. У. АНІЧЭНКА Ў СКАРЫНІНЦЫ

14-га кастрычніка ў Лёндане ў залі Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны выступаў з дакладам праф. Ул. Анічэнка, загадчык катэдры Гомельскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту імя Ф. Скарыны.

Вітаючы гасьця, сп. Я. Міхалюк зазначыў, што ўжо шмат хто з Бацькаўшчыны наведаў Скарынінку, а гэтым разам прыемна вітаць прафэсара з Гомелю.

Праф. Анічэнка дзякаваў за нагоду выступіць перад паважнай колькасьцю прысутных і расказаў пра сябе: народжаны на Магілеўшчыне ў 1924 годзе, у сям'і было адзінаццаць дзяцей. Належыць да партыі. Гаварыў дакладчык пра адміністрацыйны падзел рэспублікі, пра Гомель, які цяпер налічвае мільён жыхароў, на другім месцы пасьля Менску. Паведаміў аб існаваньні камісіі для аднаўленьня назваў гарадоў і сёлаў. Гаварыў пра заганную праграму асушваньня балотаў, што адмоўна ўплыла на расьліны й жывёлны сьвет Палесься. Цяпер робіцца захады, каб захаваць мікраклімат. Расказаў пра мінэральныя багацьці рэспублікі, прамысловую развітасьць, сельскую гаспадарку. Зазначыў, што на Беларусі цяпер людзі дамагаюцца, каб беларускай мове быў нададзены статус мовы дзяржаўнай.

Далей гаварыў пра Чарнобыль і вынікі аварыі, нястачу мэдыцынскага пэрсаналу, некаторых радыяцыйнавымяральных прыбораў і мэдычынскага дыягнастычнага абсталяваньня. Патрэбныя, казаў, дазімэтры.

Праф. Анічэнка сказаў, што гомельская адміністрацыя Беларускага Фонду Культуры патрабуе дапамогі і зачытаў заклік да Беларусаў за мяжой стаца ўкладнікамі ў БФК.

Пасьля дакладу было сабрана 200 анг. фунтаў на фонд музэю імя Ф. Скарыны пры Гомельскім унівэрсытэце імя Ф. Скарыны.

Былі на паказе дзьве кніжкі аб Скарыну ды іншыя кніжкі, напісаныя прафэсарам.

20-га кастрычніка праф. Анічэнка выступаў з дакладам у Лёндалскім унівэрсытэце. У панядзелак 23-га ён адляцеў у Маскву.

**А. З.**

## СЬВ. † ПАМ. АЛЕСЬ МАРОЗ

Нарадзіўся 16 жніўня 1918 г. ў в. Кацяўшчына на Валожыншчыне, па вайне жыў у Зах. Аўстраліі, дзе быў прадстаўніком газэты «Беларус»; адышоў на вечны супачын 8 лістапада 1989 г., пахаваны на Пінару могілках 11-га лістапада. Акт пахаваньня выканаў сьвятар УАПЦ а. Анатоль Сітнік. Нябожчыка праводзіла вялікая колькасьць сяброў і знаёмых.

Вечная яму памяць.

**Суродзічы**

## СЬВ. † ПАМ. ЛЕАНІД СІСОЙ

Народжаны 10 чэрвеня 1909 году ў Бабруйску, адыйшоў на вечны супакой 13 кастрычніка 1989 году. У жалобе пакінуў жонку, дзьве дачкі, восем унукаў, дзьве праўнучкі. Паховіны былі зь беларускае каталіцкае царквы Хрыста Збаўцы ў Чыкага.

Сьпі, дарагі, — хай пухам будзе Табе амэрыканская зямля.

**Прыяцелі й знаёмыя**

## НЯСТАЧА МЫЛА: «БЯДА» ЦІ «БУМ»

У канцы гэтага лета дастаў я ліст ад сваякоў зь Беларусі. Пішуць, што з магазынаў разам зь мясам зьнікла і мыла ды мыцельныя сродкі. Бяз мыла, праўда, яны не засталіся — ім яго выдаюць, ці дакладней — прадаюць па талонах, па невялікаму кавалку чорнага й сьмярдзючага «хозяйственного» мыла, колькісот грамаў на дарослую асобу на тры месяцы. На той-жа талон маеш права купіць таксама невялікую пачку парашку для мыцьця бялізны. Пра іншыя гатункі мыла няма чаго й гаварыць.

І вось увесь гэты стан мае сваякі камэнтуюць адным словам — бяда!

Я сабе падумаў: можа гэта перабудова (рэвалюцыя бяз стрэлаў!) буксуе так моцна? Відаць, гэтая рэвалюцыя падобная да ўсіх іншых, якія вельмі часта рабілі жыцьцё яшчэ горшым, чым яно было да таго.

Але вось трапіўся мне нумар газэты «Чырвоная зьмена» за 1-га ліпеня сёлета з камэнтаром «Аб мыючых талонах». Газэта характарызуе нястачу мыла не «бядой», як мае сваякі, а заморскім словам «бум». Выглядае як-бы людзі назапасілі дома шмат мыла ды яшчэ ўсё за їм па магазынах ганяюцца... Дзеля гэтага, маўляў, і талоны ўведзеныя, каб кожны чалавек змог сабе мыла купіць.

Перад савецкімі краўнікамі стаіць цяпер вялікае пытаньне: якім спосабам перамагчы дэфіцыт тавараў, зь якіх крыніцаў узяць грошы, каб у магазынах было ўсяго?

Я тут хачу прыгадаць аб адной такой крыніцы — гэта савецкая касманаўтыка. У народзе справядліва кажуць: навошта ў паветра міліярды народных рублёў выкідаць?! Штагоду ў космас запускаецца да дваццацёх штучных спадарожнікаў. А паколькі яны ў асноўным для ваенных мэтаў выкарыстоўваюцца, дык можа было-б даволі й пяцёх. А можа й менш? Якая карысьць з гэтага жыхаром савецкай краіны, калі іхны жыцьцёвы стандарт на ўзроўні краёў трэйцяга сьвету? Савецкае кіраўніцтва ня хоча ў гэтым космасе ад ЗША адстаць, але-ж у Амэрыканцаў з мылам ні бяды, ні «буму».

Так што трэба сказаць: таварышы, скарачайце выдаткі на космас да разумных межаў, тады знойдуцца грошы і на мыла, і на мыльныя парашкі. Гэта значыць, калі гэтыя заашчаджаныя грошы трапяць у рукі не бюракратаў, а запраўдных гаспадароў ад народу і для народу.

**Пятро Грыгальчык**

***Ад Рэдакцыі:*** Барыс Ельцын, народны дэпутат СССР і лідэр апазыцыйнае міжрэгіянальнае групы дэпутатаў (у якую ўваходзяць і дзевяць дэпутатаў ад БССР), сказаў у Нью-Ёрку 11 верасьня сёлета, што ў Савецкім Саюзе 47 міліёнаў людзей жывуць ніжэй лініі беднасьці (75 або менш рублёў на месяц). Палепшаньне справы забясьпечаньня савецкага жыхарства таварамі штадзённае патрэбы, сказаў Ельцын, могло-б адбыцца за кошт скарачэньня ваенных выдаткаў і касьмічнае праграмы.

### НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Праз нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча:*

| | | |
|---|---|---|
| А. Палескі | ам. дал. | 80 |
| В. Кажан | | 60 |
| К. Шаршуновіч | | 30 |
| А. Сільвановіч | | 30 |
| Сэктар Рады БНР ў Н.-Дж. | | 25 |
| С. Грамыка | | 25 |
| Л. Кавалёў | | 20 |
| І. Шчорс | | 20 |
| Е. Лог | | 20 |
| В. Мельяновіч | | 20 |
| С. Наумчык | | 20 |
| Т. Шыбут | | 20 |
| М. Ігнатовіч | | 20 |
| У. Лукашэвіч | | 20 |
| Я. З. за І. Б. | | 20 |
| Л. Корчык | | 20 |
| А. Евец | | 20 |
| Б. Даніловіч | | 13 |
| В. Ярашэвіч | | 10 |
| М. Каранеўскі | | 10 |
| У. Сьліўка | | 10 |
| А. Непейн | | 10 |
| В. Стома | | 10 |
| У. Т. | | 10 |
| Усяго | | 535 |

(Рэшта справаздачы ў наступным нумары).

### АХВЯРЫ НА БЕЛАРУСКАЕ РАДЫЁ Ў ПЭРЦЕ (ЗАХ. АЎСТРАЛІЯ)

| | | |
|---|---|---|
| В. і П. Дарэўскія | дал. | 100 |
| С. Карніловіч | | 50 |
| А. Міцкевіч | | 30 |
| У. Раецкі | | 50 |



**ПАРА АДНАВІЦЬ ПАДПІСКУ Й ПРЫСЛАЦЬ АХВЯРУ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА» НА 1990 ГОД**

***Каб газэта існавала,***
***Дык дваццаткі тут замала.***
***Тады будзеш Ты дастойны,***
***Калі вышлеш чэк падвойны.***
***Каму-ж грош лячэй прыходзіць,***
***То і болей не зашкодзіць.***

**Адміністрацыя «Беларуса»**